Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10.2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года

30 (538) 29 ліпеня 2010 года

Кошт **свабодны**



## 100-год Задарожскаму касцёлу

15 жніўня 2010 года, у дзень Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, касцёл у Задарожжы будзе адзначаць 100-гадовы юбілей. А 13-ай гадзіне адбудзецца ўрачыстая Святая Імша, якую будзе цэлебраваць кс. біскуп Уладзіслаў Блін і шматлікія святары. Пад час гэтай Святой Імшы адбудуцца дыяканскія пасвячэнні. Пасля імшы – канцэрт, прысвечаны 100-годдзю касцёла.

Сардэчна запрашаем усіх прыняць удзел у гэтых урачыстасцях, а асабліва тых, хто ў гэтым касцёле прымаў святыя сакраманты.

*кс. Эдвард Нарадоўскі, пробашч парафіі Маці Божай Ласкавай у Задарожжы.*

# Ðàñ³éñê³ÿ á³çíåñìåíû àñâîéâàþöü Áðàñëà¢ñê³ÿ àç¸ðû



**Расійскія фундатары рэалізуюць праекты па будаўніцтве аб'ектаў турыстычнай інфраструктуры побач з тэрыторыяй нацыянальнага парку "Браслаўскія азёры". Пра гэта БЕЛТА паведаміў дырэктар дэпартамента па турызме Міністэрства спорту і турызму Беларусі Віктар Янкавенка.**

У наш час побач з нацыянальным паркам расійскія фундатары будуюць буйны комплекс, разлічаны на прыём і пражыванне турыстаў. Ёсць і іншыя праекты, змешчаныя на розных стадыях рэалізацыі.

"Магчымасці пражывання ў Браслаўскім раёне абмежаваны, - адзначыў дырэктар дэпартамента. - Улетку базы адпачынку на Браслаўскіх азёрах забіты адпачываючымі". Таму праекты па будаўніцтве гасцініц і баз адпачынку ў гэтых месцах вельмі перспектыўныя.

Апроч гэтага, у найбліжэйшыя гады ў Браслаўскім раёне плануецца ўладкаваць пляж уздоўж гарадскога ўзбярэжжа возера Дрывяты, а таксама пабудаваць водагразелячэбніцу ў вёсцы Відзы-Лоўчынскія.

Як раней паведамлялася, расійскія бізнэсмэны разглядалі магчымасці рэалізацыі інвестыцыйных праектаў нават на тэрыторыі нацыянальнага парку. Аднак іх першым чынам цікавілі пэўныя бізнэс-праекты і гарантыі звароту інвестыцый.

Ïàñòà¢ñê³ ðà¸í

# Êîëüê³ á âÿðîâà÷ûöû í³ â³ööà

■ Кастусь Александровіч

**Значны грамадскі рэзананс і розныя чуткі на Пастаўшчыне выклікала паведамленне аб арышце нядаўна яшчэ 8 маладых хлопцаў з райцэнтра, якія ўваходзілі ў злачынную бандыцкую групоўку.** Траіх яе лідэраў аператыўнікі Галоўнага ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю МУС Беларусі ўзялі ў распрацоўку яшчэ летась. У выніку карпатлівай працы следчых выявіліся страшныя рэчы. У ціхім і спакойным райцэнтры, як уяўлялася, некалькі гадоў рабіліся страшныя рэчы. Тут пад страхам кары бандыты патрабавалі грошы ў прадпрымальнікаў, а калі хто не згаджаўся з імі, маглі пабіць, спаліць іх маёмасць, угнаць аўтамабіль. А кіраўнікі банды настолькі азвярэлі, што рашыліся на двайное забойства сваіх жа земляроў яшчэ ў 2007 годзе. Але ўсяму на свеце прыходзіць канец, дзейнасць групоўкі абясшкоджана. Калегія па крымінальных справах Магілёўскага абласнога суда паставіла канчатковую кропку па справе забойцаў. Суд прыгаварыў так званага “смотрящего” за раёнам, раней судзімага М. Януковіча і яго падзельніка А. Зубкевіча да 23-х гадоў пазбаўлення волі кожнага. Яшчэ адзін злачынца А. Лук’янаў атрымаў 13 гадоў турмы. Расследванне іншых эпізодаў крымінальнай дзейнасці гэтай банды прадаўжаюць сталічныя крыміналісты сумесна са следчымі Генеральнай пракуратуры Беларусі.

Ãëûáîöê³ ðà¸í

# ×àêàå êë³í³êó àáíà¢ëåííå

■ Чэслаў Якубовіч

**Ужо бягучай восенню жыхары Глыбоцкага раёна і не толькі могуць атрымаць абноўленую сучасную стаматалагічную паліклініку.**

Дагэтуль яна размяшчалася ў цэнтры горада ў будынку яшчэ даваеннай пабудовы і патрабавала сур’ёзнага абнаўлення. На шчасце, на добрую справу знайшліся патрэбныя грошы ў суме амаль 2 мільярдаў рублёў. За гэтыя сродкі правядуць тут капітальны рамонт медустановы і даснасцяць сучасным медыцынскім абсталяваннем усе ўрачэбныя кабінеты. Ужо 1 верасня павінны прыняць першых пацыентаў адразу тры аддзяленні клінікі: акрамя тэрапеўтычнага яшчэ хірургічнае і артапедычнае. Працы хопіць усім дзесяці стаматолагам, бо на месцы ў Глыбокім плануецца асвоіць выраб неабходных хворым металакерамічных форм зубоў, іх адбельванне і іншыя сучасныя методыкі. Неабходнае ліццё для вырабу “запчастак” для зубоў глыбачане будуць рабіць і для сваіх калег-стаматолагаў з суседніх раёнаў. Самі кабінеты клінікі поўнасцю абновяцца новым медабсталяваннем, яно ўжо падабрана, і праведзены неабходны для гэтага тэндэр. Медыцынскія паслугі будуць аказвацца як на бюджэтнай аснове, так і за грошы, пералік паслуг абноўленай клінікі ў райцэнтры значна пашырыцца.

Ëåïåëüñê³ ðà¸í

# Ïàä ïðàâ³öü õàðàêòàð ... àðì³ÿ

■ Станіслаў Раманчук

**У сярэдзіне лета беларускія войскі атрымалі чарговае маладое папаўненне. А ў буйным ваенным гарнізоне пасёлка Заслонава, што ў Лепельскім раёне, побач з прызыўнікамі з’явіліся каля паўсотні падлеткаў з розных куткоў Віцебшчыны.**

Праўда, іх размясцілі тут не ў казармах, а ў ваенных палатках ваенна-патрыятычнага лагера “Арляня”, створанага пры садзейнічанні кіраўніцтва Міністэрства абароны Беларусі. Сюды найперш накіравалі тых юнакоў, у якіх падчас вучобы ў школе ўжо былі пэўныя праблемы з законам, прыводы ў міліцыю і разборы дрэнных паводзін на камісіях па справах непаўналетніх. Для такіх вось цяжкіх падлеткаў, як правіла з нядобранадзейных сем’яў, прайсці аблегчаны курс “маладога байца” будзе вельмі карысна. З імі акрамя сваіх педагогаў займаюцца афіцэры-выхавальнікі і добра падрыхтаваныя сержанты. За час такіх вось 9-дзённых палявых збораў хлопцаў многаму навучаць, пакажуць сучасную баявую тэхніку і армейскі быт. Запланавана сумесна з салдатамі правядзенне ваенізаванай гульні і іншыя мерапрыемствы. Звычайна ў арміі дрэнныя звычкі і паводзіны ў маладых людзей мяняюцца ў лепшы бок, з войска вяртаюцца зусім іншыя, паразумнеўшыя мужчыны. Дарэчы, яшчэ адзін падобны палатачны лагер для цяжкіх падлеткаў у сярэдзіне лета запрацаваў на базе Новапагосцкай СШ Мёрскага раёна.

# Ç 1 æí³¢íÿ ïàìåð ïðàöî¢íûõ ïåíñ³é ó Áåëàðóñ³ ïàâÿë³÷ûööà íà 12,5%

■ Таццяна Каравянкова, БелаПАН.

З 1 жніўня памер усіх відаў працоўных пенсій у Беларусі павялічыцца на 12,5%. Адпаведны ўказ № 371 падпісаў 21 ліпеня Аляксандр Лукашэнка, паведаміў БелаПАН у прэс-службе Прэзідэнта.

У выніку памер сярэдняй пенсіі ў жніўні 2010 года павялічыцца на 58,6 тысяч рублёў і складзе 528,3 тысячы рублёў.

З 1 студзеня 2010 года працоўныя пенсіі ў Беларусі былі павышаны ў сярэднім на 9,1%. Сярэдні памер працоўных пенсій складае 468 тысяч рублёў, пенсій па ўзросце — 490,5 тысячы, мінімальнай пенсіі па ўзросце — 217,7 тысячы рублёў.

## Íàäâîð'å ¢ Ãëûáîêîì

www.rp5.ru

| Мясцовы час | чацвер 29.07.10 | | | | пятн.30.07.10 | | | сб. 31.07.10 | | нядз.01.08.10 | | 02.08.10 | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 03:00 | 15:00 | 03:00 | 15:00 | 03:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | - | - |
| Тэмпература, °C | +19 | +23 | +25 | +20 | +15 | +20 | +26 | +16 | +27 | +17 | +25 | +17 | +25 |
| Ціск, мм | 738 | 738 | 738 | 741 | 743 | 746 | 748 | 748 | 748 | 748 | 748 | 748 | 747 |
| Вільготнасць, % | 100 | 73 | 48 | 68 | 94 | 72 | 47 | 91 | 51 | 100 | 67 | - | - |
| Вецер м/сек | Ю-В 2 | Ю 4 | Ю 7 | Ю 5 | Ю-З 4 | Ю-З 3 | Ю-З 4 | Ю-В 2 | Ю 5 | С-З 1 | С-З 3 | С-З 2 | З 3 |

## Äçåíü çà äí¸ì

**У параўнанні з мінулым годам колькасць выпускнікоў беларускіх школ зменшылася на 10,8 тысяч чалавек. Аднак паступіць на вучобу ў айчынныя ВНУ ад гэтага лягчэй не стала, конкурсы ў большасці з іх і сёлета высокія. Набор на новыя спецыяльнасці ажыццяўляюць 8 айчынных універсітэтаў, а ў ВНУ ваеннага профілю і па творчых спецыяльнасцях сталі вядомы ўжо імёны студэнтаў, у навучальных установах другога патоку залічэнне на вучобу завершыцца 6 жніўня. З плану прыёму на гэты год 102,7 тыс. чалавек 68,8 тысяч залічаных на 1-ы курс студэнтаў павінны будуць вучыцца платна.**

## Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

**Францыя.** Еўрапарламент большасцю ў 455 галасоў дэпутатаў заклікаў 5 краін ЕС прызнаць незалежнасць Косава ад Сербіі, гэту дзяржаву прызналі пакуль 69 краін свету.

**Бельгія.** У кіраўніцтве ЕС засталіся расчараванні пасля візіту свайго еўракамісара ў РБ, дзе ён нічога новага не пачуў ад беларускіх улад, акрамя ранейшых ультыматумаў.

**Славакія.** Упершыню ў гісторыі краіны на чале ўрада стала жанчына прэм'ер-міністр, лідэр партыі Дэмакратычны і хрысціянскі саюз, 53-гадовая прафесар Івета Радзічова.

**Індыя.** У выніку чаргова тэракту баевікоў-маоістаў і падрыву ўчастка чыгункі са станцыяй быў паралізаваны рух на ўсходзе краіны, раней у маі яны забілі там 130 чалавек.

**Кыргыстан.** Часовы ўрад краіны вырашыў паўторна накіраваць у Беларусь запыт аб экстрадыцыі экс-прэзідэнта Курманбека Бакіева згодна правілаў міжнароднага права.

**Польшча.** На знакамітым Грунвальдскім полі прайшлі маштабныя ўрачыстасці з нагоды 600-годдзя перамогі славянскіх войск над рыцарамі-крыжакамі Тэўтонскага ордэна.

**Перу.** Паліцыя затрымала двух гандляраk наркотыкамі, якія ўпершыню паспрабавалі схаваць марыхуану ў вувузелах, стаўшымі папулярнымі на чэмпіянаце свету па футболе.

**Швейцарыя.** Ля горада Паерн паспяхова прызямліўся на аэрадроме ўнікальны самалёт Solar Impulse на сонечных батарэях, які завяршыў першы ў свеце кругласутачны палёт.

**Германія.** Усяго меней чым праз суткі пошукаў паліцыя ля польскай граніцы знайшла ўгнаны аўтамабіль Audi A4 кіраўніка МУС краіны, машыну міністра скраў 33-гадовы паляк.

**Францыя.** Суд краіны прыгаварыў былога 76-гадовага дыктатара Панамы, генерала М. Нар'егу да 7 гадоў турмы за адмыванне грошай ад продажу наркотыкаў у банках Францыі.

**Гватэмала.** ВМС краіны сумесна са спецпадраздзяленнем ЗША затрымалі ў Ціхім акеане саматробную падлодку даўжынёй 17 метраў, якая перавозіла 5 тон наркотыкаў какаіна.

**Італія.** На адной з дарог на поўдні краіны перакуліўся грузавік, які перавозіў з Манетнага двара каля 2 млн. EUR, да прыезду паліцыі іншыя кіроўцы забралі адсюль манет на10 тыс.

**Індыя.** Насельніцтва краіны да 2050 года абгоніць Кітай на 200 млн. чалавек, як паказаў яго перапіс, за апошнія 100 гадоў індусаў пабалела ў 5 разоў, цяпер тут жыве 1,2 млрд.

**Англія.** Пасля 480 гадоў бесперапыннай працы закрыўся самы стары магазін краіны металічных вырабаў, які не вытрымаў канкурэнцыі з набіраючымі сілу інтэрнэт-крамамі.

**Германія.** Сусветнай знакамістасцю стаў васьміног Пауль з акеанарыума горада Аберхаўзен, які ні разу не памыліўся, прадказваючы вынікі 8 матчаў чэмпіянату свету.

## Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

**Мінск.** Золатавалютныя рэзервы Беларусі знізіліся на 249 млн. $ да ўзроўню пачатку 2010 года, але сітуацыя пакуль далёка ад крытычнай, хоць і ўпалі аб'ёмы нафтаперапрацоўкі.

**Дзяржынск.** Райцэнтр стаў адным з 9 гарадоў-спадарожнікаў Мінска, згодна Дзяржаўнай праграмы сюды з беларускай сталіцы могуць перанесці асобныя вытворчыя аб'екты.

**Салігорск.** Разам з АЭС, як пацвердзіў старшыня НАН Беларусі М. Мясніковіч, самай буйной новабудоўляй краіны стане хутка вялікі хімкамбінат, запланаваны тут у раёне.

**Мінск.** Упершыню выпускнікамі двух факультэтаў Ваеннай акадэміі Беларусі сталі адразу 15 старшых афіцэраў Узброеных Сіл Казахстана, тут вучацца вайскоўцы і з іншых краін.

**Добруш.** Райпракуратура завяла справу на двух маладых жыхароў вёскі Васільеўка, якія п'яныя ноччу кралі муку з фермы і збілі там да смерці 58-гадовага мясцовага вартаўніка.

**Мінск.** Нацыянальны статыстычны камітэт цалкам увёў у камп'ютарную сістэму ГІС для апрацоўкі 13 млн. перапісных лістоў перапісу насельніцтва Беларусі восенню 2009 года.

**Баранавічы.** За значны рост вытворчасці і экспартных паставак ва ўмовах крызісу ў РБ дырэктар ААТ "Бархім" Я. Руды атрымаў ганаровае званне і прэмію "Чалавек Справы".

**Мінск.** У мікрараёне Малінаўка пачалі будаўніцтва апошняй аднайменнай станцыі першай лініі метро ў паўднёва-заходнім накірунку, якая будзе здадзена не пазней 2014 года.

**Брагін.** У выніку ўрагану моцным ветрам сарвала шыферны дах кароўніка КСУП "Брагінскі" і аднаго з магазінаў, ад стыхіі сур'ёзна пацярпелі 5 раёнаў вобласці і Гомель.

**Гродна.** Больш 4,5 млн. рублёў штрафу заплоціць 19-гадовы хакер за злом сайта мясцовага дзяржуніверсітэта, ён хацеў даказаць знаёмым сваю высокую кваліфікацыю.

**Магілёў.** Новыя пагоны генерал-маёра атрымаў начальнік абласной міліцыі Фёдар Балейка, усяго ж у Беларусі прыбавілася яшчэ трое службоўцаў у генеральскім званні.

**Жлобін.** Толькі праз месяц пасля прапажы рыбака цела тапельца выпадкова знайшлі ў час спаборніцтваў вадалазных службаў МНС Беларусі на мясцовым возеры Саланое.

**Мінск.** Патрымальны іншамаркі ў РБ, як адзначылі ў Беларускай аўтамабільнай асацыяцыі, у чэрвені патаннелі яшчэ на 15 %, за паўгода іх увезлі ў краіну 60 тысяч штук.

**Рагачоў.** Упраўленне ўласнай бяспекі МУС Беларусі правяло праверку мясцовага РАУС пасля таго, як участковы міліцыянер цяжка параніў з пісталета 22-гадовую дзяўчыну.

**Воранава.** Памежнікі на КПП "Беняконі" на беларуска-літоўскай граніцы практычна разабралі 3 іншамаркі і знайшлі ў іх больш 40 тысяч кантрабандных цыгарэт для краін ЕС.

## Ïàíàðàìà ¢íóòðûîáëàñíûõ ïàäçåé

**Орша.** Дырэкцыя мясцовага льнокамбіната вырашыла адкрыць яшчэ адзін свой фірменны магазін у Віцебску, яшчэ болей рэкламаваць прадукцыю, новыя тканіны тыпа «джынс».

**Наваполацк.** Мясцовае РУП па транспарціроўцы нафты "Дружба" ў бліжэйшыя 1-2 месяцы можа быць паскорана акцыяніравана для прыцягнення замежных інвестараў.

**Віцебск.** Па рэкорднай суме перавышэння кошту продажу ў 1200 разоў над пачатковай цаной на аўкцыёне прадалі за 42 млн. рублёў будынак закінутага свінарніка пад Оршай.

**Шуміліна.** Мясцовы філіял віцебскага ААТ "Малако" пасля станоўчай ацэнкі інспекцыі ЕС можа стаць другім у вобласці ўладальнікам сертыфіката адпаведнасці стандартам ЕС.

**Глыбокае.** Па аб'ёму атрыманай выручкі летась (176 млрд. рублёў) мясцовы мясакамбінат увайшоў у 100 вядучых ААТ Беларусі і заняў 77 месца, на ім працуе больш 820 чалавек.

**Бешанковічы.** У рамках праекта "Бэлла-Дзвіна" паблізу вёскі Шарыпіна на беразе Дзвіны абсталявалі яшчэ адну стаянку для водных турыстаў за сродкі ЕС у памеры 3 тысячы EUR.

**Віцебск.** Некалькі абітурыентаў з раёнаў вобласці могуць сесці на лаўку падсудных за хуліганства на тэсціраванні і за напісанне на бланках нецэнзурных слоў экзаменатарам.

**Верхнядзвінск.** Упершыню да трох буйных вёсак раёна, цяпер аграгарадкоў Каханавічы, Бельцы, Асвея пачалі газавікі з Віцебска будаўніцтва газапровада ў дамы людзей.

**Віцебск.** Адразу двое падлеткаў ва ўзросце 10 і 13 патанулі на працягу тыдня, першы з іх, вучань Віцебскай СШ № 25 – на Заходняй Дзвіне, аршанец – на струмені Дняпра.

**Наваполацк.** На базе былога прафілакторыя ААТ "Палімір" здалі ў эксплуатацыю другую чаргу аддзялення гарбальніцы на 45 ложкаў для догляду адзінокіх састарэлых людзей.

**Лёзна.** Райпракуратура распачала крымінальную справу супраць 35-гадовай жыхаркі раёна, якая на глебе рэўнасці забіла ўдарам нажа ў грудзі свайго 57-гадовага мужа.

**Віцебск.** На канцэрты прайшоўшага "Славянскага базару" было надрукавана 140 тысяч білетаў, каб іх болей прадаць, раёнам вобласці давялі разнарадкі раскупіць частку квіткоў.

**Расоны.** Падчас купання ў рацэ Дрыса жыхар раёна знайшоў на дне адразу 6 снарадаў калібра 150 мм часоў Вялікай Айчыннай вайны, якія потым абясшкодзілі сапёры.

**Лепель.** Паблізу ДРБУ-202 па ініцыятыве яго дырэктара У. Гірынскага адкрылі капліцу памяці ахвяр перасыльнага лагера для савецкіх ваеннапалонных у гады Айчыннай вайны.

**Верхнядзвінск.** На вядучым у раёне прадпрыемстве – ААТ "Інвет" у Бігосава пачалі выпускаць навінку – пірсы-блокі з пластмасы для вадаёмаў, як прычалы для лодак.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Лічба нумара

**482** столькі новых і быўшых ва ўласнасці кватэр толькі ў чэрвені ў Мінску, па дадзеных Нацыянальнага кадастравага агенства, было прададзена жадаючым набыць дах над галавой. У маі актыўнасць на рынку жылля была яшчэ большая, і тады мінчане набылі на 51 кватэру болей. Вядома, сталічны рынак нерухомасці не паказчык для ўсёй краіны, паколькі зараз у мегаполісе ўзводзяцца ў розных раёнах яшчэ 90 дамоў як "эканом-класа", так і павышанай камфортнасці для багатых людзей.

Аднак у цэлым па Беларусі сусветны крызіс аказаў станоўчы ўплыў на гэту сферу, з восені мінулага года ў абласных цэнтрах і іншых буйных гарадах кватэры патаннелі на 15-20 %. Амаль не сустрэнеш у рэгіёнах такія замарожаныя будоўлі, нягледзячы на нізкі плацежаздольны попыт з боку людзей, жадаючых мець уласнае жыллё. На самой справе, да вырашэння жыллёвай праблемы беларусам яшчэ вельмі далёка, спатрэбіцца не адна пяцігодка, як любяць у нас гаварыць. Бо толькі ў Мінску стаяць у чарзе па паляпшэнню жыллёвых умоў амаль 270 тысяч сем'яў, а па краіне іх колькасць перавысіла паўмільёна.

Праўда, зараз на другасным сталічным рынку жылля прапаноўваецца каля 10 тысяч кватэр, многія па яўна завышаных коштах. На што разлічваюць іх уладальнікі, можна толькі здагадвацца, ведаючы рэальную эканамічную сітуацыю ў краіне і беларускія заробкі. Вось бударганізацыі краіны зарыентаваліся і пакрыху знізілі цэны як кватэр, так офісаў і магазінаў у сваіх новабудоўлях. Пакрыху і банкі зніжаюць свае працэнтныя стаўкі, і цана квадратнага метра жылля пайшла ўніз. Сталічныя кватэры-новабудоўлі цяпер за метр плошчы прапануюць камерцыйныя цэны ў дыяпазоне ад 700 да 3.000 $/кв. м.

Назіраецца яшчэ адна цікавая заканамернасць, як зазначаюць спецыялісты: большым попытам у насельніцтва карыстаюцца кватэры ў новых дамах. Для забудоўшчыкаў такі варыянт больш выгадны і да таго ж аб'ёмы жыллёвага будаўніцтва ўзрастаюць. Купленую б/у кватэру практычна заўсёды новаму ўладальніку яшчэ неабходна капітальна рамантаваць, каля такіх старых дамоў вельмі мала месц для паркавак аўтамабіляў. Яшчэ адна тэндэнцыя: у большасці пакупнікоў не хапае грошай, каб поўнасцю заплаціць за жыллё.

Звычайна яны спачатку прадаюць сваю кватэру, у якой раней жылі, а потым замест яе купляюць новую. Стрымліваюць гэтыя працэсы высокія банкаўскія крэдыты ў беларускіх рублях. На Захадзе сярэдняя цана аднаго кв. метра жылплошчы прыкладна роўная ўзроўню сярэдняй зарплаты. У нас заробкі ўзроўню 1200-1300 $ у месяц маюць лічаныя суайчыннікі і пры гэтым айчынны жыллёвы фонд не такі вялікі, як здаецца спачатку. Да параўнання, у супаставімай з намі па колькасці насельніцтва Швецыі ва ўласнасці шведаў толькі трэць кватэр. Астатнія 65 % жыллёвага фонда яны проста арэндуюць у дзяржавы альбо ўласнікаў дамоў на здымных кватэрах за ўмераную плату.

У Беларусі цяпер назіраецца толькі нязначны рост якасці ўзводзімага жылля і тое, што многія кватэры пачалі здаваць з поўнай аддзелкай. Каб вырашыць жыллёвую праблему, трэба штогод будаваць па аднаму кв. метру жылля на кожнага жыхара горада. Каб удалося вытрымаць такія параметры, у прыватнасці, у беларускай сталіцы, то Мінск праз 15 гадоў змог бы забяспечыць жыллём усіх гараджан, якія стаяць у чарзе на яго атрыманне. Аднак на дадзеным этапе ў сталіцы з найбольшымі эканамічнымі магчымасцямі прадугледжана ўзводзіць толькі да 1,2 млн. кв. метраў жылля штогод, а жыхароў у мегаполісе ўжо каля 2 млн. чалавек.

Так што разлічваць на паспяховае вырашэнне гэтага пытання беларусам пакуль не выпадае. А вось у глыбінцы якасць будаўнічых работ бывае нізкай, там у кватэрах толькі можна марыць аб пакватэрных лічыльніках уліку цяпла і рэгулятарах яго ўзроўню у пакоях, надзейных сучасных інжынерных сістэмах, падземных паркінгах для аўто і іншых дабротах цывілізацыі. У дадзены момант такога ажыятажнага попыту на жыллё, як у 2005-2007 гадах, на гэтым рынку ўжо не будзе. Хутчэй усяго да канца года цэны на жыллё могуць яшчэ патаннець на 5-10 %, і зараз нават у райцэнтрах ёсць свабодныя кватэры. Галоўнае, каб у іх пакупнікоў былі грошы, а ў банках – магчымасць знізіць % ставак па крэдытах.

# Ігнапаль

## і яго ваколіцы

***У працяг тэмы, распачатай ў «ВГ» №27 (535) за 8 ліпеня 2010 г., № 28 (536) 15 ліпеня 2010 года.***

**■ Генадзь Комель**

Пакуль дочкі Герасіма Спірыдонавіча думаюць, што сказаць, альбо лепш прамаўчаць, бо ведаюць, што толькі пры цару Гароху язык да Кіева даводзіў, а потым стаў даводзіць у больш цікавыя месцы. Я наважуся запоўніць гэтую паўзу, бо мне што, мне ўжо 77 год. Палічыце, колькі я перажыў, пачынаючы з 1934 года за панскай Польшчай, маршалкаў, маршалаў, гаўляйтараў, генсекаў. Гэта не тое, што мой дзед, які ганарыўся, што перажыў трох цароў. Ды я што той кіргіз, што бачу, тое і спяваю. І не магу ж адказваць за ўчынкі Івана Спірыдонавіча, пра якія я толькі раскажу і не больш таго.

Дык вось, Таўкач Іван Спірыдонавіч сябраваў з маім бацькам. Толькі мой бацька распачне гнаць самагонку ля калодзежа, толькі з'явяцца першыя кроплі першаку, тут жа з'явіцца і Іван. І пашыбуюць яны ўдваіх да нашай хаты, бо закусь там, а мне прыходзіцца падкладваць дровы ў агонь і каштаваць на язык самагонку, каб ведаць, калі заканчваць працэс.

Прыйшоў я ў хату сказаць, што пара закладваць другі кацёл (гэта ўжо не мае абавязкі), а там такая сцэнка. "Як ік ішоў я з Сямё-ік-нам Міхайлаві-ік-на Варшаву, расказвае Іван (намнога пазней я даведаўся, што туды ішоў Гай), мяне хацелі" – кажа Іван – "паслаць спяваць у оперу. Вось пабачыш, як пройдзе Першае Мая, як я спо-ік-яю". І спяваў, што жонка Лена прадала ладнага кабанчыка і чуць распаяла.

Прыйшоў Іван Спірыдонавіч ва Узрэчча на Першага Мая, стаў на драўляным масту праз рэчку Дабрылаўку, трымаецца за агароджу маста і спявае, прытопваючы адной нагой. А побач пабудаваны сельсавет з будынкаў асаднікаў Рынкевічаў, вывезеных у Сібір. З іхніх будынкаў пабудавана і школа, якую я закончыў, пабудаваны і магазін, які працуе ў сучасны момант. Што ён праспяваў – пра гэта пазней, бо трэба сказаць пра час, у які гэта было.

Толькі ўз'ядналі Заходнюю Беларусь з Усходняй. Калі пры Польшчы былі жыцькі, па другому ніхто і не ведаў, як назваць гэты народ, пры Саветах сталі яўрэі. А Іван праспяваў:

"Гоп, мае грачанікі,
Усе жыды начальнікі,
А мужычкі – дурачкі
Работайце, як бычкі!"

Не ведаю, што перацягнула шалі (то біш "весы провосудия"), альбо ўдзел у дзеях 1920 на Варшаву, ці сваяцкія якіясьці сувязі ў вярхах, а мо ўсе-такі япручок, але хутка Іван вярнуўся з Вілейскай турмы.

Дарэчы, шлях на Варшаву пратаптаў і мой бацька і яго брат Сцяпан.

Майго бацьку, 15-гадовага, на жарэбнай кабылцы прымусілі везці салдат. Яшчэ з царскіх часоў шуткавалі, што калі служыць у войску, то лепш за ўсё – у абозе, і лепш за ўсё на апошняй фурманцы, таму што ёсць надзея на недалёт снарада, а пры адступленні будзеш першым! Але мой бацька пераканаўся, што ёсць нязручнасці і на апошняй фурманцы. Ён апошнім прыязджаў у панскі маёнтак, дзе ўсё ўжо было з'едзена, спалена. Праўда, бывалі выпадкі, калі ён яшчэ паспяваў застаць не спаленыя кнігі, бо імі таксама грэліся.

Вось так і атрымалася, што ён вярнуўся дамоў з ужо дарослым жарэбчыкам і поўнай фурманкай кніг. Так утварылася добрая бібліятэка.




Падчас палітычнай адлігі, калі мы курылі цыгарэты "Саюз-Апалон", мой стрыечны брат, які жыў у Зялёнай Гуры, прапанаваў мне зрабіць запрашэнне, каб я мог пабачыць Польшчу. Я паддаўся на тую правакацыю, хаця яна мне адрыгнулася потым. Ну Бог з тым, гэта ўсё мінулае, але я застаўся задаволеным паездкай у Польшчу. Толькі ў Польшчы можна было пабачыць лозунг: "Пабудуем камунізм праз свядомасць людзей!" Гэта ў 1973 годзе. Толькі ў Польшчы я змог даведацца, чаму маршал СССР Ракасоўскі з такой помпай, так бы мовіць, паехаў у Польшчу і як бясшумна вярнуўся назад.

Толькі там я зразумеў, што такое нафтапровад "Дружба".

Спякота. Па законах Польшчы піва на вуліцах па разліў забаронена, а ў магазінах выдаюць на рукі па тры штукі аб'ёмам 0,33. Вось тут мяне і прарвала: "Каково чорта, піва і то не папіць!" "А сколько Вам?" – запыталі на расійскай. "Ну хаця бы дзесятак." Выдалі. Прыйшоў і расказаў пра гэты выпадак дзядзьку Сцяпану. Ён рассмяяўся. "А хто цябе ведае, хто ты? Быў жа выпадак, калі нам не далі без усялякай аб'явы два дні нафты, і толькі на трэці дзень сказалі, што па тэхнічных прычынах яшчэ дзень не будзе."

"Дзеянні камуністаў часта не прадбачлівыя. А ведаеш, як стаў ваенным камендантам у трэцім корпусе Гая?" І ён расказаў далей.

"Нас, маладых, узброілі вінтоўкамі Мосіна і паставілі ахоўваць увесь на заклёпках жалезны мост у Дзісне на Заходняй Дзвіне. Нас двое. Сыйдземся пасярodку маста, пагутарым, разыйдземся. І так некалькі змен з адным і тым жа хлопцам. Аднойчы бачу – ідзе мой напарнік, пры шляпе, касцюме, пры гальштуку. Толькі ў нагруднай вонкавай кішэні чырвоная хустачка і на штыку чырвоная стужка. Што за цуд – на кожным вуглу лозунг: "Мы на зло ўсім буржуям міравы пажар раздуем", а тут жывы буржуй!"

"А ў адзін з чарговых дней дзяжурства бачу: едзе камісар, ну вядома ж камісар, у кожанцы, увесь у рамянях і на кані. Такіх у 1941 годзе гітлераўцы расстрэльвалі без апыту. Прыпыніўся камісар каля буржуя, запытаў – хто, адкуль, якой роты. Паехаў."

"Прайшло некалькі чарговых дзяжурстваў, а майго знаёмага няма. Ну вядома, загрымеў пад фанфары! Але ў адзін з дней выклікаюць мяне ў штаб па маіх справах. Прыходжу і бачу – мой знаёмы сядзіць у штабе пісарчуком! Я ж не лысы! Прыкасцюмліваюся – і на дзяжурства. Неяк заўважылі, выклікаюць у штаб і без усялякіх пытанняў назначаюць начальнікам па падбору, падрыхтоўцы, ахове памяшканняў для штабоў. Вось і разумей, як хочаш."

У Алеся Ставера ёсць песня "Жураўлі на Палессе ляцяць":

"Каб любіць Беларусь маю мілую,
Трэба ў розных краях пабываць."

І толькі тады зразумееш, чаму "з выраю жураўы на Палессе ляцяць". Дык чаму? Трэба вывучаць гісторыю Беларусі па архіўных дакументах розных дзяржаў, выслухоўваць расказы старажылаў, занатоўваць іх, расказваць людзям розныя цікавыя дробязі, бо толькі з гэтых фактаў і факцікаў можа вырысавацца штосьці праўдападобнае.

У Таўкача Івана Спірыдонавіча быў сын Іван, 1930 года нараджэння. Ён хадзіў ва Узрэцкую школу падчас нямецкай акупацыі. Угаварыў маіх бацькоў і мяне, каб я пайшоў у школу таксама. Пытаецца ў мяне настаўнік: "Як прозвішча?" А я стаю і маўчу. У нашых мясцінах слова "прозвішча" – гэта абразлівая мянушка. Вось я і выдаў са слязамі: "Мяне ніхто і ніяк не прызываў." Я ж не ведаў беларускай мовы, на якой выкладаліся ўсе прадметы ў гэтай школе.

Як атрымаўся такі казус, прыйдзецца расказаць асобна.

У 1943 годзе мяне здзівіў незвычайны выпадак – бой эсэсаўцаў паміж сабой на чыгуначнай станцыі Крулеўшчына. Пры вывучэнні архіўных дакументаў па гісторыі ўтварэння першай антыфашыцкай брыгады Гіля-Радзівонава, размаўляючы з удзельнікамі падзей тых часоў, прачытаўшы кнігі, выдадзеныя ў нашай рэспубліцы ў нашы гады, вырысоўваецца цікавы матэрыял, які дазволіць "закрыць" яшчэ адну белую пляму нашай гісторыі.

# Тут Вітаў шлях і Вітаў



Вялікі князь Вітаўт, кіраўнік старажытнай беларускай дзяржавы Вялікага княства Літоўскага.

**■ Генадзь Плавінскі**

Адыходзіць спякотнае лета 2010 года. Беларускія рыцары 15 ліпеня пабывалі на Грунвальдскім полі. Яны нагадалі сабе і ўсім жыхарам азёрнага краю аб нашай 600-гадовай мінуўшчыне, аб нашых ваярах, што ішлі на тую бітву з харугвамі, на якіх была выява Пагоні. Не забылі і слаўнага князя Вітаўта. А ён жа "наслядзіў" у нашых тутэйшых мясцінах. У народнай памяці гэта – Альгердаў шлях з Полацка ў накірунку Глыбокага і далей на Вільню. Гэтая ж дарога вядомая ў нас і пад назвай Вітаў шлях.

У кнізе "Памяць. Полацкі раён" на старонцы 650 змешчаны артыкул гісторыка XIX стагоддзя А.К. Кіркора. Чытаем: *"В Лепельском уезде (цяпер Полацкі раён), на берегу озера Воронечского, лежал камень, известный в народе под названием Витовтовы тарелки. На нём заметны следы шести углублений, имеющих вид тарелок. Предания говорят, что на этом камне обедал великий князь Витовт, когда в 1426 году брал приступом замок Воронеч. В 1844 г. Камень этот с обрушившимся берегом упал в озеро, но потом добыт и перевезён в имение Воронеч* (цяпер вёска Блізніца, да рэвалюцыі – сядзіба пана Лісоўскага,– заўвага аўтара). *Он имеет вид круглый с плоской вершиной, вышиною три четверти, в окружности около трёх аршин».* (Аршын роўны 71,12 см. Камень вышынёй – 53 см, дыяметрам – 68 см).



Блізніца. Колішняя сядзіба Лісоўскіх.

У вёсцы Двор Хоццевічы, што ў пяці кіламетрах ад вёскі Блізніца, жыве Павел Плавінскі, 1929 г.нр. Ён згадвае, што яго маці Яніна, апавядала аб камені з талеркамі (паглыбленнямі) на якім абедаў француз. Гэты камень, прыблізна да канца 1980-ых гадоў ляжаў ля крутога паварота дарогі Блізніца-Хоццевічы. Амаль 30 гадоў таму камень знік. Камень гэты, праўдападобна, і ёсць той самы Вітаў камень, які перавезлі ў маёнтак пана Лісоўскага. На ім у 1426 годзе і абедаў вялікі князь Вітаўт. А ў 1812 годзе пасля вызвалення Полацка ад французаў, рускія палкі,

# Барды прыехалі ў Мосар...




Бардаўскі канцэрт да 100-годдзя беларускай паэткі Ларысы Геніюш мусіў адбыцца ў Мосары ў мінулую нядзелю.

Ксёндз Уладзімір Шымуковіч даў згоду на правядзенне выставы і канцэрту ў мясцовым касцёле, але за некалькі хвілін да пачатку сказаў, што мерапрыемства не адбудзецца.

Тры месяцы таму дамовіліся з ксяндзом правесці канцэрт і выставу «Беларускія свяціні ў творчасці мастакоў». Там былі толькі касцёлы і цэрквы. У нас быў пленэр, і я прывезла працы, каб іх убачылі людзі», - паведаміла Райчонак.

Канцэрт усё ж адбыўся - побач з ляснным возерам недалёка ад Мосара, а экспанаты выставы арганізатары нават не даставалі з машыны.

Ля возера выступілі Дзмітрый Бартосік, Таццяна Беланогая, Андрэй Жбанаў, Марыя Новікава і іншыя барды.

# У Мсціславе прайшоў «Рыцарскі фэст-2010»



**Больш як дзвесце прадстаўнікоў гістарычных рыцарскіх клубаў Беларусі сталі ўдзельнікамі «Рыцарскага фэсту-2010», які прайшоў 24- 25 ліпеня ў Мсціславе.**

Традыцыйнае свята сярэднявечнай культуры сёлета было прымеркавана да 600-годдзя Грунвальдскай бітвы. Асноўныя дзеянні фестывалю праходзілі ў гістарычным цэнтры Мсціслава на Замкавай гары, у комплексе езуіцкага калегіума. Члены рыцарскіх клубаў з Мінска, Магілёва, Барысава, Віцебска, Рэчыцы і Гомеля прадэманстравалі прысутным сваё ўменне біцца на мячах і страляць з лука.

Упершыню ў рамках фестывалю была арганізавана дэгустацыя малочных прадуктаў мясцовай вытворчасці і прадукцыі Клімавіцкага лікёра-гарэлачнага завода. Усе, хто жадаў пакаштаваць малочныя і спіртныя напоі, маглі гэта зрабіць у спецыяльна абуладкаваных сутарэнных памяшканнях калегіума.

Паводле водгукаў гледачоў, самымі яркімі момантамі фестывалю сталі сярэднявечная дыскатэка і канцэрт з удзелам ансамбляў старадаўняй музыкі «Стары Ольса» і «Яварыны».

«Рыцарскі фэст» праводзіўся ў Мсціславе ўжо ў трэці раз. Яго арганізатары Магілёўскі аблвыканкам і Мсціслаўскі райвыканкам спадзяюцца, што ў наступным годзе фестываль набудзе статус рэспубліканскага.

*Уладзімір Лапцэвіч, БелаПАН.*

# У сафары-парку Нацыянальнага парку «Прыпяцкі» да канца года плануецца пусціць экскурсійны паравоз

**У сафары-парку Нацыянальнага парку «Прыпяцкі» да канца года плануецца пусціць экскурсійны паравоз для прагулак турыстаў.**

З адкрытых вагонаў наведнікі змогуць разгледзець і зняць на фота- і відэаапаратуру зуброў, аленяў, дзікоў і казуль. Аб гэтым 23 ліпеня паведаміла журналістам у ходзе прэс-тура вядучы спецыяліст Нацыянальнага парку Вольга Бамбіза. Яна адзначыла, што парк дзікіх жывёл (сафары-парк) быў створаны на плошчы 5 тыс. гектараў, тут павышаная шчыльнасць дзікіх жывёл. У сафары-парку налічваецца каля 3 тыс. дзікоў, 20 зуброў, каля 400 аленяў, 30 ланей, 60 казуль і 40 ласёў. Ва ўсім Нацыянальным парку папуляцыя аленя складае каля 800 асобінаў, зубраў каля 100. На тэрыторыі парку дзікіх жывёл размешчана 200 падкормачных пунктаў. Мясцовая сельская гаспадарка пастаўляе ў парк сена і фураж на корм жывёлам.

У парку плануецца ўвесці новыя маршруты для турыстаў.

З пачатку года сафары-парк наведала больш за 3 тыс. чалавек. Паслуга карыстаецца попытам як у іншаземцаў, так і айчынных турыстаў. Іншаземцаў на Прыпяці прыцягвае паляванне і рыбалка, пры жаданні яны могуць самі прыгатаваць здабытую дзічыну або папрасіць аб гэтым кухараў. Карыстаюцца попытам у замежных вучоных і экатуры, якія арганізуе Нацыянальны парк «Прыпяцкі».

*Алена Германовіч, БелаПАН.*

# Вітаў шлях на Глыбоччыне

« ... Бронзовый браслетъ также найденъ былъ между озерами Свядово и Долгое, при починкѣ дороги изъ дер. Зябковъ въ мѣст. Прозороки. Другія находки указаны выше.

Кладовъ никто изъ мѣстныхъ жителей не находилъ, хотя разсказовъ о нихъ въ народѣ существуетъ не мало. Такъ, напр., говорятъ о кладѣ близъ дороги, устроенной, по преданію, Витовтомъ, и отъ которой до сихъ поръ сохраняется въ уроч. Цетовщизна бревенчатая мостовая. Древняя, также военная дорога идетъ чрезъ м. Глубокое, д. Перевозъ и около дер. Слободки въ Витебскую губ.»

*Памятная книжка Виленской губ.*

***

«...До сихъ поръ сохранились близъ Полоцка следы дороги Ольгерда. «Шлях» этотъ, по указанію мѣстных жителей, тянулся изъ Полоцка черезъ задвинскіе леса, мимо мызы Рудни, черезъ р. Ушачь, через имѣніе Бездедовичи, мимо Медвежьего озера на Чертовъ мостъ, черезъ Бохонковую гору по направленію къ м. Глубокому (Виленской губ.). Следы этой дороги ныне явны только по заросшимъ просекамъ в лесахъ, по отлогимъ спускамъ на оврагахъ, ручьяхъ и речкахъ, по весьма заметнымъ прорезамъ горъ и т. п. Народное преданіе свѣрхъ того указываетъ на мѣста в рекахъ и болотахъ, на которыхъ некогда существовали мосты и гати. Что действительно это была большая дорога и служила главнейшим сообщеніемъ Литвы съ Русью, на это имеются и письменные доказательства, имѣнно грамота Баторія, в которой сказано, что починять мосты и поправлять дорогу, идущую чѣрезъ с. Бездедовичи на Чертовъ мостъ, в Вильну, обязано все Полоцкое воеводство. Дорога эта известна у мѣстных жителей также под имѣнем «Витова шляха».

**Крыніца:** ***Россия. Полное географическое описание нашего Отечества. Настольная и дорожная книга для русских людей. СПб, 1905. С. 124.***



**Зябкі. Вітаў, ён жа Альгердаў шлях. Справа – млын Рафаіла Ітмана.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

# камень



**Блізніца. Колішняя сядзіба Лісоўскіх. На павароце гэтай дарогі, побач з дубовай алеяй і ляжаў некалі Вітаў камень.**

якія пераследавалі адыходзячых французаў корпуса Сен-Сіра, далі бой каля Варонеч. Выглядае так, што і на Вітавым камяні, абедаў французскі палкаводзец.

Шкада, што гэты жывы сведка нашай гісторыі знік. Хацелася б верыць, што ён знойдзецца. Можа адгукнуцца тыя, хто некалі, магчыма, фатаграфаваўся на фоне гэтай цікавосткі, альбо на фоне былой панскай сядзібы. Магчыма, хтосьці ведае: куды знік Вітаў камень? Адгукніцеся!

Ад рэдакцыі. У 2008 годзе аўтар гэтага матэрыялу Генадзь Плавінскі, а таксама Віктар Дудкевіч, самадзейны мастак, і рэдактар "ВГ", зрабілі цікавую вандроўку па той бок глыбоцка-полацкай мяжы. Наведалі Ветрына, Двор Хоццевічы, Двор Варонеч (Блізніца) і вёску Варонеч, дзе засталося замчышча. Запісалі ўспаміны Паўла Плавінскага, які на свае вочы бачыў славуты Вітаў камень. Знялі гадзінны фільм. І усё ж, магчыма сярод нашых чытачоў ёсць ураджэнцы вёскі Блізніца і бліжэйшых ваколіцаў, якія ведаюць пра лёс Вітава каменя?

# БЫЛО Б ВЕСЕЛА, КАЛІ Б НЕ ХАЦЕЛАСЯ ПЛАКАЦЬ

■ **А.В. Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

У Беларусі наступіла сапраўды спякотнае лета, у выхадныя дні гарады пусцеюць, усе імкнуцца пабліжэй да вады, трохі астудзіцца. Вось і жыхар Шаркоўшчынскага раёна грамадзянін Д., 19 ліпеня 2010 года сядзеў дома, вельмі горача, вырашыў папіць піўка, але аднаму піць сумна, ды і піва неабходна чымсьці закусіць, добра б ракамі. Доўга не думаючы пра наступствы, сабраў грамадзянін Д. яшчэ дваіх сваіх знаёмых і свайго бацьку і прапанаваў ім, пакуль піва ў халадзільніку астывае, палавіць броднікам ракаў на вадасховішчы Вардзік, што паблізу г.п. Шаркоўшчына.

Каля 19 гадзін уся кампанія прыехала на вадасховішча і пачала лавіць ракаў і рыбу. Ракі трапляліся ўсе буйныя, ды і рыба нядрэнная, лін ды шчупак, будзе з чым піва папіць і юшкай можна закусіць. Толькі доўжыліся гэтыя шчаслівыя хвіліны не доўга, незаконную здабычу рыбы і ракаў спынілі работнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету сумесна з супрацоўнікамі Шаркоўшчынскага РАУС. Палічылі злоўленых ракаў, 166 асобінаў, 7 асобінаў ліна, 4 асобіны шчупака, 3 асобіны акуня і сталася, што шкода, прычыненая прыродзе склала амаль 4 млн. рублёў. Колькі можна было выпіць піва? Шаркоўшчынскім РАУС па факце незаконнай здабычы рыбы і ракаў узбуджана крымінальная справа.

20 ліпеня 2010 года двое жыхароў г. Глыбокае вырашылі парыбачыць на возеры Кагальнае ў Глыбокім, увечары паставілі донкі, а заадно і сетку, бо ўначы ўсе супрацоўнікі інспекцыі спяць, можна дзейнічаць спакойна. Наставаў світанак 21 ліпеня, каля 4 гадзін раніцы, надвор'е абяцала быць добрым і ўлоў чакаўся нядрэнны, бо ў возеры шмат карася, і ён абавязкова патрапіць у сетку, але як той казаў, не стаў сетку іншаму, сам у яе і патрапіш. Толькі сябры знялі сетку з рыбкай, а тут работнікі міжраённай інспекцыі, дзявацца няма куды, трэба адказваць за парушэнне па законе. Рыбка, злоўленая сеткай, абыйдзецца вельмі дорага.

25 ліпеня 2010 года кампанія з трох сяброў, жыхароў г. Глыбокае, вырашыла адзначыць дзень нараджэння сябра на возеры Сэрвач, але што за свята без юшкі. З сабою ўзялі броднік і давай рыбку лавіць, але не чакалі маладыя людзі, што работнікі інспекцыі будуць тут як тут.

Злавілі сябры не шмат, але за штраф, які яны заплацяць за незаконную здабычу рыбы, можна дзень нараджэння адзначыць і ў добрым рэстаране.

Гэта толькі 3 прыклады затрымання браканьераў, за 3 дні аднаго тыдня, а колькі такіх парушальнікаў затрымоўваецца штодня па ўсёй рэспубліцы, закон да парушальнікаў строгі, але ён закон.

Для аматараў лоўлі ракаў Глыбоцкая міжраённая інспекцыя паведамляе, што лоўля ракаў дазволена пры дапамозе ракаловак у колькасці 3 штук на чалавека ці рукамі, можна вылавіць 30 штук ракаў на 1 чалавека ў суткі, даўжыня рака пры гэтым павінна складаць не меней 9 см.

У выпадку здабычы грамадзянінам больш 30 штук, дзеянні будуць разглядацца як парушэнне, што цягне пакаранне ў выглядзе папярэджання ці штраф у памеры да 20 б.в., з пакрыццём шкоды за кожную вылаўленую асобіну рака, 17500 рублёў за адзінку.

Пра ўсе правапарушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць на тэлефон «гарачай лініі» Глыбоцкай міжрайінспекцыі: 8-02156-28670, маб. МТС: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.

# У мяне на душы “накіпела”!

■ **Алесь Гай**

У апошнім нумары “Вольнага Глыбокага” быў апублікаваны мой артыкул “Перапалох у лясных браканьераў”. Я сам не чакаў, што такі станоўчы водгук будзе на гэты матэрыял. Многія аматары лесу і зборшчыкі ягад ціснулі руку, а адна сям’я, якая займаецца зборам ягад для продажу, папрасіла наведаць іх. Адбылася сустрэча. Вось што яны мне паведамілі:

– Цалкам згодныя з кожным радком артыкула. Выказваем вялікую падзяку А.В. Протасу і згодныя з тым, каб гэтаму чалавеку раённая ўлада прысвоіла званне “Чалавек года”. Зараз у шэрагах лясных браканьераў вялікі перапалох. Вялікі страх навёў А.В. Протас на гэтых лясных грабежнікаў.

– Рэч вось у чым, паведаміла Галіна Б., – цяпер у Чорным Ручаі, калі прайсці па чарнічніку, не ведаеш, як ахарактарызаваць відовішча! Такое ўражанне, што тут прайшоўся статак сланоў! Выскраблі камбайнамі ўсё, што можна. Цяпер гэтыя грабежнікі накінуліся на Пастаўшчыну і Галубіцкую пушчу. Калі так і надалей будзе працягвацца, дык хутка мы ўжо чарніцы занясём у Чырвоную кнігу.

– Мы таксама сваёй сям’ёй займаемся нарыхтоўкай ягад і грыбоў, але ніколі не карыстаемся камбайнам. Выхоўваем так сваіх дзяцей і сваіх унукаў – берагчы сваё багацце, багацце нашага краю.

– Дзён дзесяць таму мы паехалі ў Жданы на Пастаўшчыне. Найшлі вялікую дзялянку чарніцаў, ягад шмат. Бачым, збіраюць жанчыны і мужчыны, падлеткі, і – няма ў руках камбайнаў.

Раптам чуем: пад’ехала машына… Адтуль вываліла тры жанчыны і мужчына, ляснулі дзвярыма, ідуць з камбайнамі.

– Во! Глыбоцкія прыехалі! – кажуць міжсобку пастаўчане.

Здзіўленне маё не мела межаў: як яны здагадаліся, што прыехалі глыбачане?

Напэўна не раз прыходзілася бачыць гэтых лясных грабежнікаў. Мне было вельмі сорамна за глыбачан.

Я зрабіла заўвагу мужчыну, якому, на выгляд, гадоў 45-50: “Нельга карыстацца камбайнам! Во колькі людзей! Усе збіраюць рукамі! Паважайце не толькі сябе, але і іншых!”

А ён у адказ:

– Бабуля, гэта – лес! Не адкрывайце рот! Камароў шмат у рот заляціць! Так што – маўчы!

Вось так глыбоцкія лясныя браканьеры паводзяць сябе і на Пастаўшчыне. Прыйшлося мне рот закрыць, бо сапраўды па ўзросту я ўжо бабуля.

На днях пабывала ў Галубіцкай пушчы, – працягвае Галіна Б. Прынеслі ягады на прыёмны пункт у Давыдках. Ад убачанага там я схапілася за галаву! Цяжка паверыць, што такія чарніцы прымаюць. У скрынках: лісце, смецце, галінкі… А прыёмшчыцы – “усё да лямпачкі!” Разлічваецца па 8 тысяч за кілаграм. Я так і не даведалася: каму належыць гэты прыёмны пункт.

Такое становішча – кожны год! Нікога гэта не хвалюе!

Найперш, трэба навесці парадак на прыёмных пунктах. Не ўбачыш тут абвестак, што ягады, сабраныя камбайнамі, не прымаюцца, альбо прымаюцца са зніжкамі да 50%. Можа б тады і задумаліся лясныя браканьеры. Гэты ж экіпаж глыбоцкіх браканьераў за дзве гадзіны наскроб больш за тры вядры. Вось і падлічыце! 150 тысяч рублёў!

Па-другое, на прыёмных пунктах патрэбна прад’яўляць якую-небудзь даведку: хто ёсць ты? Бо на маіх вачах на прыёмным пункце знаёмая паставіла на шалі тры вядры ягадаў, а прозвішча назвала не сваё. Павінен быць сапраўдны ўлік, і тады мы даведаемся аб сапраўдных браканьерах-рэкардсменах.

Вельмі прашу, – кажа аўтару гэтых радкоў Галіна Б., каб “Вольнае Глыбокае” апублікавала тое, што ў мяне на душы “накіпела”.

На развітанне я падзякаваў Галіне Б. за клопаты па захаванню прыродных багаццяў нашага краю.



**Камбайн – зброя ляснога браканьера.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

## На Віцебшчыне ўводзіцца забарона на наведванне лесу

**У Віцебскай вобласці з-за пагрозы пажараў лясы масава закрываюцца ад наведнікаў**

Пра гэта БелТА паведаміў в. а. начальніка аддзела аховы і абароны лесу, палявання і паляўнічага турызму Віцебскага вытворчага лесагаспадарчага аб'яднання Аляксей Шапашнікаў.

На сённяшні дзень у сувязі з высокай пажаранебяспечнай сітуацыяй уведзена забарона на наведванне лясоў у Віцебскім, Лёзненскім, Дубровенскім і Полацкім раёнах. Такое ж рашэнне рыхтуецца і ў Шумілінскім, Ушацкім, Талачынскім, Сенненскім, Аршанскім, Лепельскім раёнах. Плануецца, што яно будзе прынятае на працягу бліжэйшых дзён.

У цэлым сітуацыя з ляснымі пажарамі ў цяперашні час застаецца падкантрольнай, хоць па паўночным захадзе вобласці адзначаецца сярэдняя пажаранебяспечнасць, а па паўднёва-ўсходніх рэгіёнах – высокая.

Усяго з пачатку вясеннелетняга сезону ў Віцебскай вобласці адбыўся 21 лясны пажар на плошчы 15 га, пры гэтым дзевяць з іх здарыліся за мінулыя тры дні.

*Радыё Свабода.*




*Насцю Адамовіч*

**Віншуем з Днём нараджэння!**

С днем рожденья, мое счастье!
Пусть за окнами ненастье,
Пусть холодный ветер дует,
Пусть снежинка поцелует
Тебя, милая моя,
В сказку дивную маня!



*Мама.*

*Анастасію Адамовіч*

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Милая, нежная, светлая, чистая,
Пусть в этот день, когда ты родилась,
Счастье тебе улыбнется лучистое,
Бед и печалей минует напасть.
Пусть никогда, никогда не кончается
Вера твоя в наступленье весны,
Пусть все мечты и надежды сбываются.
Явью становятся сказки и сны...



*Бабуля, дзядуля, цётка Наталья*

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

2 – 8 жніўня 2010 г.



## ПАНЯДЗЕЛАК, 2 жніўня



06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00,19.00 Новости.
06.05, 07.10, 08.15 «Доброеутро,Беларусь!».
07.05, 08.10 Зона Х.
07.30, 08.25, 11.55 Деловая жизнь.
08.30 «Т-человек, влюбленный в риск».
09.05 «Отряд специального назначения» -
09.35 Здоровье.
10.00 Женское ток-шоу
10.55 «OFF STAGE LIFE»
11.10 **«Не родись красивой»**
12.10 Мелодрама **«Ванечка»** -
14.10 «Тимати».
15.15, 19.15 Новости региона.
15.25«Невидимыйфронт»
15.40 **«Молоды и счастливы»**
16.30 **«Всегда говори «всегда»-3».**
17.30 **«Не родись красивой»**
18.25 «Прости меня».
18.50, 00.40 «Зона Х».
19.25 «КЕНО».
19.30 «Арена».
19.55 **«Участок»**
21.00 Панорама.
21.50 «Новая волна-2010». Дневник.
22.00 «Новая волна-2010». Закрытие конкурса.
00.45 День спорта.



06.00,09.00Наши новости.
06.05 «Наше утро».
09.05 Контуры.
10.05 «Города-герои. Мурманск».
11.00 Наши новости.
11.05 Новости спорта.
11.10 «Цыганская страсть».
12.05 «Малахов+».
13.00 Наши новости.
13.05 Новости спорта.
13.10 «Понять.Простить».
13.45«Модный приговор».
14.50 «Мои друзья. Тигруля и Винни».
15.30 «Хочу знать»
16.00 Наши новости.
16.10 Новости спорта.
16.15 **«Обручальное кольцо».**
18.00 Наши новости.
18.15 Новости спорта.
18.20 **«Счастливы вместе».**
19.00 Жди меня.
20.00 Время.
20.30 Наши новости.
21.00 Новости спорта.
21.05**«Танго с ангелом».**
22.10 **«Остаться в живых».**
23.05 Наши новости.
23.20 Новости спорта.
23.25 «Мотофристайл. Чемпионат мира».
00.25 **«Говорящая с призраками».**
01.10 Наши новости.
01.25-01.35 Новости спорта.

ЛАД ТЭЛЕКАНАЛ "ЛАД"

07.00 ЛАДное утро.
08.00 **«Универ»** (Россия).



08.30 Час суда.
09.25 Сериал **«Любовь как любовь»**
10.30 Драма **«Август»**
12.05 «Пра мастацтва».
12.30 Школа ремонта.
13.30 **«Полюби меня снова»**
14.25 Мультсериал **«Доктор Дог»**
14.55 Внеклассный час.
15.05 Простые упражнения
15.35 Детективный сериал **«Налетчики»**
16.25 Час суда. Дела семейные.
17.25 Врачебные тайны
18.00 Сериал **«Любовь как любовь»**
19.00 **«Умножающий печаль»** (Россия).
20.05 Комедийный боевик **«Спецназ по-русски - 2»**
21.10 Калыханка.
21.25 **«Универ»** (Россия).
22.05 **«Налетчики»**
22.55 Боевик **«Бой без правил»** (Гонконг).



06.00 «24 часа».
06.10 «Минщина».
06.20 «Утро. «.
07.30 «24 часа».
07.40 «СТВ-спорт».
07.45 «Утро. «.
08.30 «Неделя».
09.30 «Большой завтрак».
10.05 «Личный интерес» с Павлом Кореневским.
10.30 «24 часа».
10.40 «Ангел-хранитель». Теленовелла.
11.40 «Званый ужин».
12.35 **«Мачеха»**. Сериал.
13.30 «24 часа».
13.50 «Большой город».
14.30 Концерт Михаила Задорнова.
15.35 «Звездный ринг».
16.30 «24 часа».
16.50 «Репортерские истории».
17.10 «Наше дело».
17.20 «Минщина».
17.30 «Званый ужин».
18.30 **«Мачеха»**. Сериал.
19.30 «24 часа».
20.00 «Столичные подробности».
20.10 «СТВ-спорт».
20.20 «Добрый вечер, малыш».
20.40 «Кинопонедельник»: **«КАРДИОГРАММА ЛЮБВИ».**
22.30 «24 часа».



22.55 «Столичный футбол».
23.25 «Кино»: **«ГНЕВ».**

БЕЛСАТ tv BELSAT

07:00 Тыдзень у «Аб'ектыве»
07:30 Моўнік
07:40 Кулінарныя падарожжы Р.Макловіча:«Марскісмак»
08:05 Басанож па свеце
08:35 Побач з намі
08:50 «Цягнік стаіць пяць хвілінаў»
09:45 Вагон
09:45 **«Таямніца крэпасці шыфраў»**, тэлесерыял: 4 серыя
10:40 **«Загадкі Мэрдака»**, дэтэктыўны серыял: ч. 2, 4 серыя
11:25**«Апошні імператар»**
17:00 Аб'ектыў
17:05 **«Папялушка»**
17:30 **«Таямніца крэпасці шыфраў»,**
18:15 «Троіца», фільм-канцэрт
19:00 Прэс-экспрэс
19:15 Гісторыя пад знакам Пагоні
19:30 **«Надзвычай прыгодніцкія падарожжы Цюхці»**, мультсерыял
19:40 Еўропа сёння
20:10 Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча: «Смак Славаччыны»
20:35 «Маскоўская жонка»
21:00 Аб'ектыў
21:25 Прыватная калекцыя
21:40 **«Апошні імператар»**
00:15 Аб'ектыў

